© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015


# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

15 красавіка 2004 г. № 55


*Данута Бічэль-Загнетава*

## Ушанаваньне

туліцца сонца да скроняў
такое сонца на небе якое ў тваёй кароне
ад дванаццаці зорак палаюць на небе зоры
закалыхвае чоўнік таго хто невылечна хворы

у шчылінцы між дзьвюх каронаў заснулі сіроты
хаваюцца людзі бяздомныя ў збаўчыя воты
там іх ніхто ня знойдзе й ня зганіць іх душы
залатыя ружы сукенкі будзяць жывыя ружы

перад тваім адзеньнем кленчаць у захапленьні
і падаюць на калені глухія сэрцы з каменьня

пад тваёй каронай падвойнай ідуць да ўзаемнай згоды
ўжо маюць ахоўныя межы суседнія ўсе народы

Вострая Брама ўплывае на іхны на Вільні лёс
Магнітнай падковай Пагоні прыцягвае ўсіх да нябёс.

*Чытаю Вашую газэту, бадай, ад першага нумару. У газэце для асабістага "спажывецка-інфармацыйнага банку" шмат важнага, а "для душы" асабліва цікавыя-патрэбныя весткі-навіны-рэпартажы пра Вільню, Віленшчыну ды віленчукоў, – тое, чаго нідзе ня знойдзеш, не прачытаеш. Вось прыкладам у нумары газэты за 18 лютага сёлета мне вельмі спадабаўся артыкул сп. Язэпа Русакевіча пра Чэславу Кудабу, знанага літоўскага навукоўца-географа, якому была блізкая і беларускасьць, і зь беларусамі ў яго, упэўнены, былі добрыя дачыненьні. Аб Чэславе Кудабе хачу выказацца, прыпомніць пару мамэнтаў, калі зь ім давадзілася сустракацца, гутарыць...*

У наступным нумары газэты ў рубрыцы ПОСТАЦІ чытайце ўспаміны **Вітаўта Кіпеля** пра Чэслава Кудабу!

## Дамкі ТБК перайшлі ва ўласнасьць іншага гаспадара?

**Колькі дзён таму назад невядомыя асобы распачалі рамонт у памешканьнях дамкоў Таварыства беларускай Культуры, што месьцяцца ў самым цэнтры Вільні на вул. Жыгіманта. Невядомыя пры гэтым выкінулі ў калідор і на вуліцу кнігі, мэблю ды іншае майно Таварыства. Так безцырымонна цяперака ў нас у Літве паводзяцца толькі тыя, хто мае 100-працэнтовую ўпэўненасьць, што чужая ўласнасьць "пераплыла" ў ягоныя рукі. Няўжо беларусы-віленчукі засталіся безь яшчэ аднаго асяродка беларушчыны ў сваім горадзе? Чаму й як гэта адбылося? На гэтыя пытаньні адкажа чытачам у наступным нумары нашае незалежнае й бесстароннае расьследаваньне...**

СЯЧКАРНЯ




# Сьледчая справа № 51844

## у абвінавачаньні Луцкевіча Антона Іванавіча паводле ар. ар. 64, 68, 74 і 76 КК БССР

Верасень 1939-га. Пачатак нямецка-польскай (а фактычна Другой сусьветнай) вайны. Чырвоная Армія на нейкі месяц захоплівае Вільню. Напрыканцы кастрычніка Вільня была ўжо аддадзеная Сьметанаўскай Летуве (наўзамен за разьмяшчэньне на ейнай тэрыторыі савецкіх ваенных базаў). А яшчэ цераз колькі месяцаў Вільня, разам з усёй Летувою (цяпер Літ. ССР), была зноў "далучаная" да Савецкага Саюзу.

Але вернемся ў верасень 1939-га. Вось што піша ў сваіх успамінах пра той першы "савецкі" месяц Галіна Войцік: "Для палякаў напад Савецкага Саюзу быў як нож у сьпіну, хто мог, уцякаў у Літву. Кс. Адам Станкевіч, каторы меў нямала сяброў сярод літоўцаў, прапанаваў і Антону Луцкевічу перайсьці разам зь ім літоўскую мяжу. Але А. Луцкевіч адмовіўся. Ён нават выступіў з прамовай на мітынгу на Лукіскім пляцы. Неўзабаве пачаліся арышты, арыштавалі А. Луцкевіча, сэнатара В. Багдановіча, пасла Ф. Яреміча, У. Самойлу й шмат іншых. А Вільня рыхтавалася да рэфэрэндуму, каму дастанецца горад, БССР ці Літве..."

Безумоўна, Антону Луцкевічу, галоўнаму ў вачах энкавэдыстаў "беларускаму нацыяналісту", трэба было ратавацца разам з ксяндзом Адамам. Тады-б... Аднак добра так разважаць з пэрспэктывы сёньняшняга дня. Вось-жа й сам Адам Станкевіч празь нейкіх дзесяць гадоў зробіцца ахвяраю той самай энкэвэдысцкай сячкарні.

Як вынікае з "Справы № 51844", яшчэ да прыезду ў Вільню ў верасьні 1939-га опэры з НКВД цудоўна ведалі, каго яны зь віленскай беларускай інтэлігенцыі мусяць "узяць" у першы чарод. У апошніх радках "Абвінаваўчага заключэньня да справы" (16 старонак!) канстатуецца: "Изобличается показаниями разоблачённых агентов 2 Отдела Польглавштаба – Тарашкевича Б. А., Рак-Михайловского С. А., Логиновича И. К., Александровича М. И., а также показаниями ряда обвиняемых контрреволюционной повстанческой и шпионско-диверсионной организации "БНЦ». Адзначым, што нікога ўжо з "разоблачённых" на той час не было ў жывых.

Ёсьць у Справе й "Даведка", у якой пададзены дакладны сьпіс тых, хто праходзіў па ёй:

1. Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч, арышт. 15/V 37 годзе паводле артыкулу 68, 76 КК, асуджаны к ВМН (вышэйшая мера пакараньня, расстрэл – *заўв. рэд.*).

2. Рак-Міхайлоўскі Сямён Аляксандравіч, арышт. у 1938 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН.

3. Салагуб Аляксей Феадосьевіч, арышт. у 1933 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН.

4. Гаўрылік Ёсіф Емельянавіч, арышт. у 1933 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН.

5. Дварчанін Ігнат Сямёнавіч, арышт. у 1933 годзе, асуджаны к ВМН з заменаю к/л 10 гадоў.

*Працяг на старонцы 6*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



### З Днём Волі

супрацоўнікаў нашае рэдакцыі й беларусаў-віленчукоў павіншавалі: старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікае Брытаніі **Г. Міхалюк**, пісьменьнік **Кастусь Акула** з Канады, генэральны сакратар Асацыяцыі Беларусаў Аўстраліі **Алесь Алехнік**.

### Беларусь цалкам залежыць

ад імпарту энэргарэсурсаў. Сама яна вырабляе толькі крыху больш 1% спажыванай энэргіі. Усё гэта робіць эканоміку Беларусі закладнікам палітыкі ейных суседзяў. Так Беларусь спажывае шмат энэргіі Ігналінскай АЭС, якую Літва зьбіраецца зачыняць. Такое становішча змушае Беларусь ствараць уласныя крыніцы электраэнэргіі. На адкрыцьці першай чаргі рэканструяванай Полацкай ТЭЦ, беларускія ўлады гаварылі пра тое, што напрацягу 5-ці гадоў на Заходняй Дзьвіне будзе створаны каскад з 4 электрастанцыяў: у Полацку, Віцебску й Бешанковічах, якія дадуць яшчэ 4% уласнай электраэнэргіі. Плянуецца таксама ўвесьці ў эксплюатацыю ГЭС на Нёмане, каторая павінная вырабляць 30 млн. квт/г электраэнэргіі. Апошні праект выклікаў занепакоенасьць літоўскіх палітыкаў, каторыя, разам зь літоўскімі спэцыялістамі, лічаць, што ў галоўнай рацэ Літвы стане менш ня толькі рыбы, але й вады.

### 25 Сакавіка

пачалося для беларусаў-віленчукоў зь пікета перад беларускай амбасадай у Вільні, арганізатарам якога было ТБК і "Малады Фронт". Пад разгорнутымі плякатамі "Ніякіх саюзаў з Расеяй!" і "Лукашызм = фашызм!" прамоўцы пратэставалі супраць парушэньня правоў чалавека на Бацькаўшчыне, супраць перасьледу інакшдумаючых, закрыцьця незалежных СМІ, грамадзкіх арганізацыяў і беларускіх вучэльняў, супраць жабрацтва. Пасьля пікету ўсе скіраваліся на Замкавую Гару, дзе ўсклалі кветкі й паставілі сьвечкі на мейсцы пахаваньня К. Каліноўскага. А па абедзе супрацоўнікі сучаснага Беларускага музэю імя І. Луцкевіча ў Вільні адкрылі ў бібліятэцы Літоўскай акадэміі навукаў сьвяточную выставу "Беларускі каталіцкі друк у Вільні", якая дзейнічае й дагэтуль.

**Павал Саўчанка**

### Сьвіраны – калыска Ф. Багушэвіча

пад такой назвай 28-30 траўня у радзінным маёнтку Ф. Багушэвіча Сьвіраны будзе ладзіць імпрэзу Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. У праграме: прыезд дэлегацыі зь Менску ў Вільню, экскурсія Вільня – Барэйкаўшчына – Рукойны – Савічуны – Сьвіраны Вільня, устаноўка й асьвячэньне мэмарыяльнага знаку ў Рукойнах, устаноўка й асьвячэньне постаці Маці Божай Сьвіранскай (перад Крыжам паўстанцам 1863 г. у Сьвіранах), знаёмства зь Вільняй, наведаньне беларускага касьцёлу Сьв. Барталамэя.

**Старшыня ТБМ Віленскага краю Юры Гіль**

### Напярэдадні ўступленьня ў ЭС

які мусіць адбыцца напачатку траўня, апазыцыйны "Саюз айчыны" (літоўскія кансэрватары) з мэтай прадухіленьня зьніжэньня нараджальнасьці й крызысу традыцыйнай сям'і заявіў пра ініцыятыву "2 Д" ("2 дзіцяці"), прапанаваўшы распачаць дыскусію, якая тычыцца абавязкаў дзяржавы перад сям'ёй. Паводле словаў аднаго зь лідараў "Саюзу Айчыны" Кубілюса, кансэрватары будуць дамагацца таго, каб фінансавая дзяржаўная дапамога дазволіла сем'ям пераступіць "бар'ер другога дзіцяці". Пры сёньняшнім стане, калі ў краіне вялікае беспрацоўе, асабліва, у рэпрадукцыйнай групе насельніцтва, а бальшыня працуючых атрымлівае мізэрны заробак (каля 400 літаў у месяц), – выхаваньне нават аднаго дзіцяці ёсьць вялікая праблема. Сёньня падручнік для вучня 1-4 клясы каштуе ад 30 да 50 (!) літаў, а іх трэба некалькі, а яшчэ трэба набыць сшыткі й іншыя школьныя прылады. Літва пакрысе вымірае. Толькі за 7 першых месяцаў 2003 г. насельніцтва краіны зьменшылася амаль на 10 тыс. чалавек і складае 3.454.200.

**Валянціна Грыневіч**

### Пчалярства – карысны занятак

распавядае пчаляр-беларус з Новай Вілейкі Станіслаў Ахрамовіч. Мяркуецца, што чалавек пачаў выкарыстоўваць пчолаў 9-10 тыс. гадоў таму назад. Самы старажытны спосаб здабываньня мёду й воску зводзіўся да паляваньня на заселеныя меданоснымі пчоламі дуплы дрэваў, у выніку – да зьнішчэньня пчаліных гнёздаў. Пазьней людзі сталі даглядаць пчолаў у дуплах, а затым разводзіць іх у штучных дуплах – борцях. Бортніцтва пашыралася ў X-XVII ст. ст., але ў XVIII ст. зьмянілася яно калодным пчалярствам, калі пчолаў сталі разводзіць у неразборных перасоўных калодах і дуплянках. З 1814 г. разьвіваецца рамачнае пчалярства. Пячаліная сям'я – структура трывалая, складзеная зь некалькіх тысячаў рабочых пчолаў, маткі й трутняў. Матка жыве даўжэй (2-3 гады) й адкладае да 3 тыс. яек у судні. Раньняй вясною рабочыя пчолы (жывуць 35-40 дзён) масава вылятаюць за нэктарам і пылком. Вясною маладыя пчолы робяць пробны вылет.

**Ігар Ахрамовіч**

# Мартыралёг Віленскага краю

125. Макоўскі Лаўрэнцій Давыдавіч, 1904 г., нар. в. Сакаўшчына Віленскай губ., жыў у пас. Магочына Крывашэінскага р-на, дзесятнік біржы круглага лесу. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
126. Малевіч Аляксандр Мацвеевіч, 1893 г., нар. в. Гулі (Жаснянскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у г. Томску, фельчар хірургічнай клінікі. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
127. Малееў Фадзей Францавіч, 1899 г., нар. в. Дзяркоўшчына Вілейскага павета Віленскай губ., жыў і працаваў у калгасе "Красный Октябрь". в. Межанінаўка Томскага р-на,. Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ.
128. Маліноўскі Вінцэнт Вінцэнтавіч, 1874 г., нар. в. Сарокі Віленскай губ., жыў у пас. Сокалаўка Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
129. Манкевіч Станіслаў Аляксандравіч, 1898 г., нар. в. Неча Лідскага павета Віленскай губ., жыў у г. Томску асістэнт-хірург хірургічнай клінікі медінстытута. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
130. Мацкевіч Кандрат Ягоравіч, 1885 г., нар. в. Коскі Віленскай губ., жыў у пас. Канстанцінаўка Асінаўскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
131. Мацяржынскі (Мецяржынскі) Пётр Пятровіч, 1888 г., ур. Віленскай губ., жыў у в. Маісееўскія Хутары Асінаўскага р-на, старшыня рэвізійнай камісіі калгаса "Красная поляна". Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ і 3 гады пазбаўлення правоў.
132. Мейран Сцепаніда Іванаўна, 1913 г., нар. в. Нароты Ашмянскага павета Віленскай губ., жыла ў г. Томску, рабочая запалкавай фабрыкі. Арыштавана ў 1938 г. Асуджана на 8 гадоў ППЛ і 5 гадоў пазбаўлення правоў.
133. Міхайлоўскі Пётр Андрэевіч, 1911 г., нар. в. Максімаўка Маладзечанскай вол. (Вілейскага павета Віленскай губ.), жыў у г. Томску, студэнт мукамольна-элеватарнага інстытута. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
134. Міцэвіч Іван Фаміч, 1871 г., нар. в. Баяры Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у в. Полазава Крывашэінскага р-на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
135. Мятла Арцемій Міхайлавіч, 1880 г., нар. Дзісенскага павета Віленскай губ., жыў у в. Балотнае Томскай губ., без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў маі 1921 г. У чэрвені 1921 г. вызвалены пад падпіску. Справа спынена ў кастрычніку 1921 г.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Вёскі й мястэчкі Віленскага краю

## Па маршруце Вільня – Рудаміна – Тургелі – Дзевянішкі – літоўска-беларуская мяжа – Геранёны – Суботнікі – Іўе

**Рудаміна.** Пад Рудамінай у 1377 г. пацярпелі паражэньне крыжакі, у 1394 г. пацярпела ад іх паражэньне нашае войска. Рудамінскі касьцёл пабудаваны ў 1592 г. Ёсьць тутука й царква. У мястэчку дзьве школы: польска-расейская й літоўская.

**Тургелі.** Старажытнае мястэчка каля сучаснай літоўска-беларускай мяжы. Касьцёл існуе з 1511 г. Новы касьцёл, самы ладны ў Салечніцкім раёне, збудаваў у 1909 г. ксёндз-прэлат Павал Шапэцкі. На парафіяльных могілках пахаваны рэктар Віленскага ўнівэрсытэту Ш. Малеўскі (1759-1832). За 2 кілямэтры ад Тургеляў у бок Яшунаў – Рэспубліка Паўла Бжастоўскага (пра яе я ўжо пісаў у "Руні" № 50).



*Дзевянішкі*

**Дзевянішкі.** Касьцёл збудаваны ў 1411 г. Да вайны тут было многа жыдоў. У мяйсцовай школе Армія Краёва распрацавала плян "Вострая Брама" – плян вызваленьня Вільні ад нямецкай акупацыі, якое пачалося 7.07.44. На местачковым пляцы ў Дзевянішках адбылася сумесная дэманстрацыя сілаў АК і Чырвонай Арміі.

**Мяжа.** На Суботнікі й Жамаслаў раней была добрая дарога. Цяпер дарога закрытая, і трэба ехаць на Геранёны. За кілямэтар ад Геранёнаў новая літоўска-беларуская мяжа. Тут і мытня. Праезджага транспарту, звычайна, лічаныя адзінкі.

**Геранёны.** Першае цяпер ад мяжы беларускае мястэчка. Раней наля касьцёла, на Замкавай Гары, быў замак, вакол якога пралягалі 700-мятровы вал і запоўнены вадою роў. Праз 4 гады ў замку жыла Барбара Радзівіл, аж да сьмерці свайго мужа, троцкага ваяводы Станіслава Гаштольда, за якога выйшла замуж на пятнаццатым годзе жыцьця. У 20 гадоў аўдавела. У 1543 г. спаткала прыгожага караля Жыгімонта Аўгуста, зрабілася ягонай каханкай, потым жонкай і каралеўнай. Гэта было, як пісалі тадышнія гісторыкі й паэты, "каханьне стагодзьдзя".

**Суботнікі.** Старажытнае мястэчка на р. Гаўі, пад самым высокім сасновым борам. Калі-б знаходзілася ў добрых руках, выглядала-б ня горш за літоўскае мястэчка Бірштонас. Але тутэйшы санаторый (даваенны велізарны шпіталь) развальваецца, нават аўтобусы зь Ліды ходзяць усяго тры разы на тыдзень. Затое спакойна й ціха.



*Тургелі*

Пасярод мястэчка – агромністы, стогадовы касьцёл, збудаваны пры Ўладзіміры й Яніне Ўмястоўскіх. За касьцёлам, сярод дубоў і ліпаў, на беразе Гаўі стаіць звыклы дамок, каля яго – хлеў, склеп і студня. Толькі сьцежкі да студні няма – зарасла. Дым з коміна трохі ідзе, значыць, жыве хтосьці. Заходзім у дамок. Страчае нас стомленая жыцьцём старая жанчына. Гадоў 40 ня бачыў, а пазнаў адразу: твар, вочы дый вымаўленьне, як у Зянона Пазьняка. Калі даведалася, што мы не зь Беларусі, а зь Вільні, адразу пажвавела, зрабілася весялейшай. Зрабілі фатаздымкі каля хаты, каб потым іх ейнаму сыну Зянону перасладзь, каторы ня ў войску, не ў турме, а ў вольным сьвеце, ды вось ужо як 7 гадоў ня можа дамоў вярнуцца.

**Іўе.** Адно з найцікавейшых мястэчак у Беларусі. Ляжыць у 5-7 кілямэтрах ад Нёмана, пад Налібоцкай пушчай. Сёньня Іўе – раённы цэнтар Гарадзенскай вобласьці й, можна сказаць, неафіцыйная сталіца беларускіх татараў (тут пражывае каля 600 татарскіх сем'яў). Ёсьць мячэць. У 1563 г. быў збудаваны вялізны касьцёл, пры каторым дзейнічала ведамая ва ўсім ВКЛ Іўеўская арыянская акадэмія, рэктарам якой у 1587 г. быў Ян Ліцыні Намыслоўскі. Была ў Іўі й свая друкарня. У 15 кілямэтрах ад Іўя месьцяцца вядомыя з 1407 г. Лаздуны, былая ўласнасьць Радзівілаў.

**Юзаф Русакевіч**



*Дом Зянона Пазьняка ў Суботніках*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Шлях да Катынскага лесу

*Працяг. Пачатак у № 54.*

## На "райскай тэрыторыі"

4-га кастрычніка, прыбыўшы ў Валачыск, які быў разьдзелены полска-беларускай мяжою на дзве часткі – польскую й савецкую, мы перайшлі мяжу й апынуліся на тэрыторыі Савецкага Саюзу... Ён спаткаў нас ужо ня толькі не як сыноў, але нават і ня як пасынкаў. Калі існуе на сьвеце пекла, дык яно бадай ці можа быць горшым за тое, што нас сустрэла на ўступе ў савецкі "рай". Перагнаўшы цераз Валачыск, нас – каля 10.000 чалавек – прывялі ў адлежны на 3 км. ад гораду саўгас і запхнулі ў дзьвюх аборах. Мы апынуліся ў найпрымітыўнейшых абставінах... Цяснота, задуха, нястача вады, – гэта толькі малая частка нашых пакутаў. Сядзець трэ' было проста на гнаі й літаральна адзін на адным. Аб якім-колечы кармленьні не было нават і гаворкі, не было нават студні ці рэчкі паблізу, каб задаволіць страшэнную смагу стомленых, згаладнелых людзей. А было-ж нас тут 10.000 палонных усіх рангаў, ад радавога да палкоўніка ўлучна. Голад, смага і бруд запанавалі сярод людзей і выклікалі страшэнную роспач. Ня вытрымаўшы нэрвовага напружаньня, карыстаючыся цемраю, каторыя з нашых сябраў павесіліся тут-жа на бэльках аборы, дый рэшта была у такім стане, што чакала сьмерці, як збаўленьня...

Памятаю, што нас, афіцэраў, вельмі дзівіла, скуль гэта ўзялося з намі гэтулькі радавых жаўнераў, якіх бальшавікі дакляравалі зь месца адпусьціць і якім палітрукі на вуліцах Львова крычалі: "По домам, товарищи, по домам!" Справа хутка выясьнілася. Аказваецца, бальшавікі ашукалі ня толькі нас, "буржуяў", "фашыстых", "памешчыкаў", як яны нас звалі, але й звычайных жаўнераў – пралетарскіх сыноў. На другі-ж дзень пасьля свайго прапагандавага прыхватку – роспуску дамоў – бальшавікі назьбіралі іх зноў і пагналі ў Валачыскае пекла.

## Едзем далей

Мучаліся мы колькі дзён. Калі, здаецца, сілы ўжо не ставала, каб трываць далей, энкавэдыстыя паадчынялі аборы, пагрузілі нас у быдлячыя вагоны, якія здаліся нам запраўдным раем пасьля нашае пякельнае валачыскае вязьніцы, і павезьлі на ўсход. Ад Валачыску "апеку" над намі абняло ўжо цалкам НКВД. Цэлую дарогу нашыя апекуны, баючыся, відаць, з нашага боку нейкага выбуху, падыктаванага роспачу, стараліся трымаць нас у настроі няпэўнасьці й слабое надзеі на добрае заканчэньне нашых пакутаў. Яны цэлую дарогу, быццам ня хочачы, "прагаворваліся", што нас усё-ж хутка зволняць, што нас вязуць толькі так сабе, дзеля нейкіх там імглістых фармальнасьцяў, што мы Савецкаму Саюзу зусім непатрэбныя й няма рацыі нас трымаць і г. д. А што найцікавей – дык гэта тое, што бальшыня з нас гэтай нахабнай энкавэдысцкай брахні верыла, абсалютна не ўяўляючы сабе, што ўмова з подпісам "самога Цімашэнкі" можа быць урэшце... нявыкананая. Запраўды, наіўнасьць і нясьведамасьць... што да бальшавіцкіх спосабаў і мэтадаў была ў 1939 г. проста дзіву й жалю годна.

## "Рай" праездам

Ехалі мы больш за тыдзень, і з кажным днём, кажным кілёмэтрам выразьней і яскравей адкрывалася перад нашымі вачыма шэрая бальшавіцкая штодзённасьць. Ведама, праз напалавіну забітыя шчыліны вакенцаў таварнага цягніка шмат пабачыць нельга. Але й тое, што паволі паўзло паўз нас – напоўразбураныя саламяныя стрэхі вёсак, пажарышчы на "кулацкіх" сялібах, бруд і непарадак на станцыях, шэрыя, прыгнечаныя постаці савецкіх грамадзянаў – укладаліся ў няўзнана невясёлы, пануры абраз савецкага "Раю". А трэба ўзяць увагу, што ехалі мы праз Украіну – "сонечную жытніцу" Савецкага Саюзу.

Нарэшце цягнік спыніўся на нейкай станцыі й далей не пайшоў. Мы здагадаліся, што прыбылі на месца. Месцам нашага новага жыхарства аказаўся г. Старабельск, малы, немагчыма брудны гарадок з малымі дамкамі, небрукаванымі вуліцамі, рынкам, упрыгожаным лужынамі, што ніколі не высыхалі й дзе з добрых старых часоў пеляскалі сытыя сьвіньні...

Прыбыло нас усіх у Старабельск каля 2.000 афіцэраў, у тым ліку пяцёх генэралаў. Ад станцыі да лягеру – вялікі кавалак дарогі – мы йшлі пехатой, літаральна па калена ў густой, тлустай, чорнай украінскай гразі, але даўгая дарога цягніком у немагчымай цясноце й брудзе так змучыла нас усіх, што пэрспэктыва адпачынку недзе на сталым месцы , пад дахам (можа, у цяпле?) падбадзёрвала нават найбольш нявытрыманых і прымушала жвава мясіць нагамі балота. А тут яшчэ й энкавэдыстыя нашыя давалі нам тэмпу, умела дакідаючы тут і там слоўка аб блізкім адпачынку, цёплай страве й хуткім звальненьні.

Праз колькі гадзінаў мы былі ў лягеры. Тут сустрэлі мы вялікую колькасьць польскіх жаўнераў і афіцэраў, якія, аказваецца, прыбылі сюды раней за нас. Нас разьмясьцілі ў будынку былой царквы. Гэта былі цагляныя настылыя муры. Ні нараў, ні лаваў, – нічога гэткага тут не было, дый не магло быць, бо ўся царква была так шчытна запханая палоннымі, што на нейкае "ўмэбляваньне" тут абсалютна не было месца. На падлогу нанесена была нагамі густа чорнае й ліпкае гразі... На гэтую гразь мы, шчасьлівыя, што можам нарэшце выпрастацца, палеглі спаць цесна адзін пры адным. Разумеецца, што аб такім "буржуазным забабоне", як мыцьцё ці разьдзяваньне не было ані гутаркі праз увесь час нашае цяганіны.

*Працяг будзе*

### Памяці майго дзядулі

Толькі семдзесят вёснаў тваіх праляцелі,
У нябыт красавіцкай паводкай сплылі...
Ад чаромхавай квецені скроні твае пасівелі,
І стаміліся рукі, якія так многа маглі.

Тыя рукі ня ведалі стомы ніколі,
Не цураліся працы цяжкой
І, як дом свой уласны, яны сваю долю
Будавалі трывала на павазе людзкой.

Лёс адмерыў спаўна табе шчасьця і мукі,
Сьпелых летаў сунічных, людзкой дабрыні...
Па сьцяжынах тваіх прабягаюць унукі
І свой крок па тваім вывяраюць яны.

**Мікола Вальнец**, 15 гадоў, *Вілейка*


## Беларускія кнігі

*Разнастайная тэматыка, нізкія кошты.*



Кнігарня «**Draugystė**»
Gedimino pr. 2, Vilnius
Даведкі: **242-38-02**


© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Мае сустрэчы з "чалавекам-легендай"

Пра яго напісана каля трохсот артыкулаў, яму прысьвечана шмат вершаў (В. Іпатава, Р. Барадулін і інш.), кінафільм "Душа – не падарожніца", пра яго напісалі кнігі знакаміты Васіль Быкаў, вядомыя кіты ў "кітазнаўстве"Лідзія Савік, Вольга Іпатава, Аляксей Анішчык ды шмат іншых аўтараў. Ён прафэсар многіх замежных унівэрсытэтаў, акадэмік Сусьветнай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай акадэміі навукаў Еўраазіі (Масква). Доктар філязофіі ў галіне матэматыкі, ганаровы прафэсар Мэрылендзкага ўнівэрсытэту (ЗША), ганаровы доктар навукаў Беларускага ўнівэрсытэту ўмя Янкі Купалы ў Горадні, ганаровы грамадзянін г. Навагрудка. Ён зьяўляецца адным зь вядучых амэрыканскіх дасьледчыкаў у галіне ракетных паліваў, ён першы напісаў пра іх падручнік. Яго называюць "беларускім выгнаньнікам", "грамадзянінам сьвету", "чалавекам-легендай"... Дык хто-ж ён, гэты былы карэлічаскі хлопчык, нашчадак сялянскага роду, наш беларускі Ламаносаў? Гэта – грамадзянін сьвету, беларус паводле паходжаньня – Барыс Уладзіміравіч Кіт...

На жаль, і да сёньняшняга дня ягонае імя на Бацькаўшчыне вядомае менш, чым за мяжою. Я таксама мала што пра яго ведала яшчэ нейкіх шэсьць гадоў таму, пакуль лёс не закінуў мяне на жыхарства ў далёкую Аўстралію. Тут, у Сыднэі, у Беларускім грамадзка-культурным клюбе, я пазнаёмілася з многімі шчырымі беларусамі, у тым ліку з старшынём клюбу Міхасём Лужынскім, вельмі адукаваным і адданым беларускай справе чалавекам. Спадар Міхась аказаўся былым вучнем Барыса Уладзіміравіча Кіта па Маладзечанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе, дзе апошні ў 1943-44 гг. працаваў выкладчыкам і дырэктарам. Міхась Лужынскі шмат чаго распавёў мне пра нашага знакамітага суайчыньніка, даў мне пачытаць усе публікацыі пра яго, якія меў. А восеньню 1999 г., калі я зьбіралася наведаць дачку ў Франкфурце на Майне, ён даў мне даручэньне наведаць свайго настаўніка.

Прызнацца, я вельмі хвалявалася перад нашай першай сустрэчай. Не таму, што я ніколі ня мела сустрэчаў са знакамітымі людзьмі. Дзякуючы маім бацькам і сваякам, я з маленства сустракалася з многімі вядомымі савецкімі дзеячамі навукі й культуры, у прыватнасьці, зь Якубам Коласам, зь Пятром Міронавічам Машэравым. Аднак з чалавекам сусьветнага рангу я сустракалася ўпершыню. Які ён – "чалавек-легенда"? Ён уяўляўся мне нейкім недасягальным волатам.

І вось ён перада мною: добры, маладжавы твар (у свае амаль што 90 гадоў), позірк маладых вачэй, хуткая паходка й неверагодная прастата! Сапраўды кажуць: усё вялікае – простае. А яшчэ ўразіла ягонае валоданьне многімі замежнымі мовамі, не кажучы ўжо пра родную, беларускую, якую мой суразмоўнік (на зайздрасьць многім беларусам з Бацькаўшчыны) вудае ў дасканаласьці. Ён ёсьць сапраўдная "хадзячая энцыкляпэдыя": шмат мне распавёў пра гісторыю Франкфурту й ягонага навакольля, у прыватнасьці, пра Бад Хомбурга, дзе жылі й тварылі Тургенеў, Дастаеўскі ды інш. Ён цікавіўся беларускімі справамі ў Аўстраліі й на беларускім радыё "Свабода" ў Празе, якую я кагадзе наведала. Ягоны сьветлы розум, прыроднае пачуцьцё гумару рабілі нашыя размовы зьмястоўнымі й займальнымі. Мы разьвіталіся добрымі сябрамі, паміж намі завязалася ліставаньне, ён прыслаў мне свой цудоўны юбілейны альбом, а я пасылала яму аўстралійскія календары й сувэніры.

У другі мой прыезд у Франкфурт у 2001 г. Барыс Уладзіміравіч ужо сустракаў мяне. Гэтым разам я была ўжо добра "падкаваная" ў сваіх ведах аб ягоным жыцьці й творчасьці. Аднак і гэтым разам я даведалася шмат новага пра яго. Высьветлілася, што Барыс Уладзіміравіч вельмі ганарыцца сваім амэрыканскім грамадзянствам, таму што, паводле В. Быкава, "гнаны бальшавіцкай навалай з Бацькаўшчыны, ён блукаў па Эўропе ў пошуках прыстанішча". А знайшоў яго ў Амэрыцы, якая першая ацаніла ягоны талент й дапамагла рэалізаваць ягоныя вялікія здольнасьці. Алеж сэрцам Барыс Уладзіміравіч заўсёды рупіўся пра Беларусь. Ён лічыў і лічыць сваім абавязкам дапамагаць усім беларусам, зь якімі яму даводзіцца сустракацца. Гэта ён заснаваў адну з самых вялікіх беларускіх калёніяў у ЗША (Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі), куды перацягнуў многіх сваіх землякоў з Эўропы.

Восеньню 2003 г. мне пашчасьціла праводзіць больш часу ў кампаніі Барыса Ўладзіміравіча, чым у мінулыя мае прыезды. І я на сабе адчула ягоную незвычайную шчодрасьць і чуласьць, бо мела ў той час непрыемнасьці праз сямейныя справы маёй дачкі. "Грамадзянін сьвету" лічыць сваім абавязкам прымаць і апякаць усіх беларусаў і чальцоў іхных сем'яў, якія наведваюць Франкфурт. У ягонай невялічкай франкфуртцкай кватэрцы пабывалі шмат якія беларусы з Бацькаўшчыны, у тым ліку й знакаміты навуковец Платонаў. Шмат дзён пабач з Барысам Уладзіміравічам правёў у Франкфурце наш знакаміты пісьменьнік сьв. памяці Васіль Быкаў.

Жывучы ў спартанскіх умовах, Барыс Уладзіміравіч, як высьветлілася, амаль усю сваю пэнсію, якую атрымлівае з ЗША, траціць на беларускую дзейнасьць і дапамогу беларусам. Ад землякоў, якія ведаюць яго, даведалася, што ён пасылаў лекі нават іхным унукам, калі тыя хварэлі. А яшчэ Барыс Уладзіміравіч вельмі ганарыцца сваімі шматлікімі вучнямі, якія, на ягоную думку, зьяўляюцца ягоным найбольшым унёскам як для Беларусі, так і для Амэрыкі. Ганарыцца й тым, што яго нарэшце прызналі і на Бацькаўшчыне, асабліва сваім "наваградзкім грамадзянствам". Адна зь ягоных мараў – адкрыць на сваёй "малой радзіме", у Навагрудку, унівэрсытэт.

Часам задумваюся, адкуль у яго столькі энэргіі, такія ясны розум і здольнасьці ў такія гады? Лічу, што тут маюць вялікі ўплыў ягоная пастаянная праца над сабой, кіпучая грамадзкая дзейнасьць, актыўны лад жыцьця. А яшчэ той факт, што амаль 30 гадоў жыцьця Барыс Уладзіміравіч неразлучна зьвязаны з Тамарай Казевіч – маладой, прыгожай, высокаадукаванай, таленавітай жанчынай, якая зьяўляецца ягонай спадарожніцай, сяброўкай, сакратаркай. Можна толькі пазайздросьціць, калі бачыш, як кожннага дня аб 16.00 Барыс Уладзіміравіч, дзеб не знаходзіўся, сьпяшаецца на спатканьне з сваёй Тамарай.

Аднак галоўны фактар актыўнага даўгалецьця Барыса Ўладзіміравіча зьяўляецца ягоны характар. Ён сядзеў за сваю беларускую дзейнасьць у польскіх і нямецкіх засьценках, ён ледзьве пазьбегнуў ГУЛАГу, у які, бяспрэчна, трапіў-бы, каб не падаўся на Захад. Маючы сусьветную славу, ягонае ўмя доўга замоўчвалася на Бацькаўшчыне. Але-ж ён ні на кога не затаіў злосьці й крыўды, працягваў любіць сваю шматпакутную Беларусь, рабіць людзям дабро. І дабро гэтае вяртаецца да яго самога...

Калісьці, падчас нашай размовы, Барыс Уладзіміравіч прызнаўся мне, што яму наканавалі 110 гадоў жыцьця. Дык доўгага, актыўнага й плённага Вам жыцьця на карысьць нашае Маці-Беларусі, дарагі наш "чалавек-легенда" – Барыс Уладзіміравіч Кіт!

**Слава Лягенчанка**
***Аўстралія***

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Там, дзе мяне няма...

## 22. Гісторыя выданьня кнігі "Мае ўспаміны" Ю. Вітан-Дубейкаўскай. Заснаваньне першай у паваеннай Вільні беларускай школы.

Напачатку лета 1994 г. прыехалі да нас госьці з Амэрыкі: Янка Запруднік і др. Набагез. Запруднік у часы ваеннай акупацыі быў вучнем Лявона, які выкладаў у Баранавіцкай мастацкай школе беларускую мову й літаратуру. І вось, праз паўстагодзьдзе, вучань прыехаў наведаць свайго настаўніка, якога ён не забыў.

Летам таго самага году адбыўся І Зьезд беларусаў Балтыі. Зьезд праходзіў у Базыльянскіх мурах, у тых самых памешканьнях, дзе колісь была Віленская Беларуская Гімназія. У гэтым самым часе выйшла з друку першая ў паваеннай Вільні беларуская кніжка "Мае ўспаміны" Юльяны Вітан-Дубейкаўскай. Цікавая гісторыя гэтага выданьня. Яніна Каханоўская, пляменьніца Івана Луцкевіча, і паэтка Натальля Арсеньнева, ейная прыяцелька, папрасілі Ю. Вітан-Дубейкаўскую, якая пасьля сьмерці мужа (як немка, у рамках савецкай рэпатрыяцыі) жыла ў Нямеччыне, – напісаць успаміны пра Йвана Луцкевіча, свайго нарачонага, хвароба якога й сьмерць не далі ім магчымасьці наладзіць супольнае жыцьцё. Юльяна згадзілася і ў 1954 г. прыслала Яніне рукапіс у Нью Ёрк, дзе ў гэты час жыла Яніна. Я. Каханоўская й Н. Арсеньнева прачыталі рукапіс, паправілі мову, Яніна надрукавала рукапіс на машынцы. Аднак беларусы на эміграцыі (ЗША) зь нейкіх меркаваньняў адмовіліся выдаць успаміны. Яніна неяк пісала мне, што "Я як-небудзь раскажу табе, як гэта было", але так і не расказала.

20 гадоў пасьля сьмерці аўтаркі, Яніна прыслала машынапіс успамінаў Лявону Луцкевічу. І вось у 1994 г. удалося выдаць гэтыя вельмі цікавыя ўспаміны, каторыя паказваюць постаць Івана Луцкевіча на фоне грамадзкага жыцьця тагачаснай Вільні, ягоныя апошнія дні й сьмерць у Закапаным. Мяне-ж асабіста асабліва зьдзіўляе, як старая, многа перажыўшая жанчына, змагла захаваць такую сьвежасьць пачуцьця.

1верасьня 1994 г. пачала працаваць Беларуская сярэдняя школа імя Ф. Скарыны. Да гэтага часу ў Вільні пару гадоў ужо існавалі беларускія клясы пры расейскай школе. Мэрыя выдзеліла пад беларускую школу будынак дзіцячага садку ў мікрараёне "Каралінішкі" на вул. Сеціно 21. Патрэбны быў рамонт. Дзякуючы энэргіі дырэктаркі школы Галіны Сівалавай рамонт быў пасьпяхова закончаны да пачатку навучальнага году. Клясы былі невялікія, дзяцей няшмат.



*Сьвяткаваньне Дня гімназіі ў Беларускай школе імя Ф. Скарыны*

Пазьней, дый цяпер, некаторыя віленскія беларускія дзеячы робяць школе закіды, што яна не такая, як легендарная ВБГ. Аднак трэба ўважаць на тое, што асноўны кантынгент вучняў ВБГ паходзіў зь вёскі й жылі гімназісты пераважна ў інтэрнатах. З самога гораду, тады зусім невялікага, вучыліся толькі дзеці беларускай інтэлігенцыі, і іх было няшмат.

Цяперашняя беларуская школа ў Вільні знаходзіцца ў вельмі нязручным мейсцы, на ўскрайку гораду. А якія бацькі дазволяць, каб іхныя дзеці езьдзілі цераз цэлы горад з Антокалю, Жырмунаў, Кальварыйскай, ня кажучы ўжо пра Новую Вілейку, дзе жыве найбольш беларусаў? З гэтай прычыны колькасьць вучняў у школе невялікая – 150-170 чал. Тым ня менш, школа йснуе, ейныя выпускнікі пасьпяхова паступаюць у вышэйшыя вучэльні Літвы й Беларусі. Школа ладзіць розныя імпрэзы, 1 лютага штогод праводзіцца Дзень гімназіі, на які запрашаюцца выпускнікі ВБГ. Толькі іх з кожным годам меншае.

*Працяг будзе*

**Галіна Война**

# Сьледчая справа № 51844

## у абвінавачаньні Луцкевіча Антона Іванавіча паводле ар. ар. 64, 68, 74 і 76 КК БССР

*Працяг са старонкі 1*

6. Мятла Аляксандар Аляксандравіч, арышт. у 1933 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН.

7. Мятла Пётар Васільевіч, арышт. у 1933 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН з заменаю к/л 10 гадоў.

8. Бурсевіч Максім Тарасавіч, арышт. у 1933 годзе паводле артыкулу 76 КК, асуджаны к ВМН з заменаю к/л 10 гадоў.

9. Краскоўскі Іван Ігнатавіч, арышт. у 1930 годзе, у 1931 годзе асуджаны на 5 гадоў з высылкай у г. Самару.

Як бачым, лёс Антона Луцкевіча быў прадвызначаны задоўга да верасьня 39-га...

Мы спадзяемся, што пасьля гэтае кароткае публікацыі ў "Руні" "Сьледчай справай № 51844 у абвінавачаньні Луцкевіча Антона Іванавіча" зацікавіцца знаўцы жыцьця й творчасьці нашага выдатнага беларускага адраджэнца. Падамо ніжэй толькі сухія факты й даты, што тычацца апошніх месяцаў ягонага жыцьця – ад арышту да сьмерці. З Справы вынікае, што:

"Луцкевіч А. І. быў арыштаваны 30 верасьня 1339 г. віленскай опэргрупай НКВД".

"Сьдедзтва ў справе Луцкевіча вялося ў 3 аддзеле УГБ НКВД БССР, справа... закончана 27 кастрычніка 1940 году й 14 студзеня (1941 г.) паступіла ў 4 аддзел 3 Упраўленьня НКГБ дзеля накіраваньня паводле асуджанасьці".

Затым "пад увагай, што Луцкевіча неабходна дапрасіць паводля шэрагу пытаньняў і асобаў, не зьвязаных зь ягонай справай", з таго самага 3-га Ўпраўленьня 6 сакавіка 1941 г. на ймя пракурора СССР было адпраўленае "Хадайніцтва" "аб прадоўжаньні тэрміну сьледзтва ў справе Луцкевіча А. І. на адзін месяц, г. зн. да 1 красавіка 1941 года".

14 чэрвеня 1941 г. Асобая Нарада пры Народным Камісарыяце Ўнутраных Справаў СССР пастанавіла: "Луцкевіча Антона Антонавіча за антысавецкую дзейнасьць заключыць у папраўчы працоўны лягер тэрмінам на восем гадоў, лічачы тэрмін з 30 верасьня 1939 году".

Паводле сакрэтнага "Извещения" з Перасыльнага пункту г. Аткарска НКВД Саратаўскай вобласьці ад 24. ІІІ. 1942 г.: "Луцкевіч Антон Іванавіч прыбыў (у Аткарск – *заўв. рэд.*) 4-ІІ-1942 г. з Банашоўскай турмы № 3", а "23-ІІІ-1942 г. памёр у перасыльным пункце г. Аткарска".

*Падрыхтаваў*

**Алег Мінкін**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Пра забойства гаўляйтэра Беларутэніі Вільгельма фон Кубэ

Як ведама зь беларускай савецкай гісторыі, у ноч з 21 на 22 верасьня 1943 г. ад "хімічнай" міны, прынесенай партызанкаю-сувязною Марыяй Восіпавай і падкладзенай А. Мазанік пад ложак гаўляйтару Кубэ, апошні загінуў ад выбуху. За гэты тэрарыстычны акт абедзьве жанчыны былі ўдастоеныя званьняў Герояў Савецкага Саюзу з уручэньнем Залатых Зорак. Таксама атрымала званьне Героя й Надзея Траян, якая, паводле сьведчаньня М. Восіпавай, ніякага дачыненьня да гэтага акту ня мела. Сам я, аўтар гэтых радкоў, упершыню пачуў пра забойства Кубэ ад настаўніка нямецкай мовы Параф'янаўскай школы Докшыцкага раёну нашага кляснага кіраўніка Каржуева Івана Цімафеевіча, каторы на сваіх уроках з захапленьнем распавядаў пра "подзьвіг савецкіх жанчынаў-патрыётак". Калі выйшаў мастацкі фільм "Гадзіньнік спыніўся апоўначы", я шмат разоў з захапленьнем глядзеў яго. Здарылася так, што недзе ў 1967 г., калі я праходзіў пэдпрактыку ў Параф'янаўскай сярэдняй школе, ужо сам распавядаў вучням пра той "геройскі ўчынак", бо меў за плячыма дзьве жывыя сустрэчы з А. Мазанік і М. Восіпавай у Менскім пэінстытуце ў 1966 г., дзе вучыўся. Сустрэчы гэтыя адбыліся паасобку з кожнай зь іх. Жанчыны знаходзіліся паміж сабою ў непрыязьні, пасьля вайны ніколі не сустракаліся. У часе свайго выступу А. Мазанік галоўным чынам распавядала, як яна праносіла ў будынак і спальню міну, што было вельмі няпроста й рызыкоўна. Я тады задаў ёй некалькі пытаньняў, сярод якіх: як яна патрапіла працаваць да немцаў і як яна ставіцца да фільму "Гадзіньнік спыніўся апоўначы"? Вось што адказала Мазанік:

"Я патрапіла працаваць да немцаў, каб не памерці з голаду. Гэтак рабілі тады ўсе. Кінафільм глядзела адін толькі раз і больш глядзець ня буду, бо сцэнар пісалі безь мяне, а Вільгельм Кубэ выстаўлены нейкім бязвольным і прыдуркаватым, хаця ў сапраўднасьці ён быў хітрым і падступным фашыстам, абдурыць якога было вельмі складана. Ня трэба было выводзіць героем і бабу-кухарку, якая забівае сякерай нямецкага афіцэра. У сапраўднасьці, жанчына, што працавала на кухні, была зацятая фашыстка..."

Ад сустрэчы з Восіпавай урэзаўся ў памяць эпізод, як яна несла ад партызанаў дзьве міны, схаваныя ў кошыку пад ягадамі, што ейная падпольная клічка была "Чорная", што, каб прайсьці кантрольна-прапускны пункт, дала паліцаям 25 марак і 5 яек.

У 1972 г. я патрапіў на працу ў Менск адказным сакратаром Таварыства "Веды". Там мне зноў неаднаразова давялося сустракацца з М. Восіпавай, якая мне ў прыватных гутарках паведаміла шмат фактаў, якія апускаліся ў ейных публічных выступленьнях. Вось што запомнілася:

"Гаўляйтэр Кубэ быў хітры фашысты. Ён заігрываў зь беларусамі-калябарантамі, дазваляў адкрываць беларускія школкі, пісаў лісты ў Бэрлін, у якіх абвінавачваў нямецкія карныя ворганы ў жорсткасьцях да насельніцтва. Такая ягоная палітыка не была да спадобы ні ў Бэрліне, ні ў Маскве. У 1942 г. было пастаноўлена за кожную цану забіць гаўляйтэра. На гэтае былі кінутыя шматлікія сілы, у тым ліку й спэцгрупа НКУС, у якую і ўваходзіла Надзея Траян. Я-ж была сувязной партызанскай брыгады, якая дыслякавалася на Лагойшчыне, мела клічку "Чорная". Пасьля многіх няўдачаў у справе замаху на Кубэ, мне даручылі ўстанавіць сувязь з А. Мазанік, якая працавала пакаёўкай у гаўляйтэра. Да вайны Мазанік працавала афіцыянткай у ЦК, абслугоўвала самога Панамарэнку. Немцы пра гэтае ведалі, але, праверыўшы яе, давяралі ёй, асабліва жонка Кубэ Аніта. Яна называла Алену Гэленай. Вільгельм фон Кубэ з сваёй сям'ёй жыў на в. Энгельса (там, дзе цяпер кнігарня). А. Мазанік зь сястрой жыла непадалёк, у маленькім дамку каля драмтэатра. Была яна вельмі прыгожая дзяўчына, гаўляйтэрскі ад'ютант сымпатызаваў ёй, прыносіў ёй у якасьці падарункаў розныя жыдоўскія рэчы, зьнятыя з ахвяраў. Рэчамі гэтымі сёстры прыгандлёўвалі, на рынку й можна было ўстанавіць зь імі сувязь. Было некалькі сустрэчаў, але безвыніковых. Алена вагалася. Аднойчы яна тры дні не выходзіла на сувязь і гэтым вельмі ўстрывожыла падпольшчыкаў. Я пайшла на рызыку, узяла міну й пайшла да А. Мазанік. Размова была кароткай і жорсткай: ня выканаеш партызанскі загад, будзеш вісець разам са мной, толькі я буду вісець мёртвай, бо ў мяне ёсьць яд, а цябе павесяць жывой. Мазанік згадзілася выканаць загад, толькі папрасіла, каб разам зь мінай ёй таксама далі яд. Міна й яд былі ёй перададзеныя, а таксама было дамоўлена вывезьці яе ў лес на аўтамашыне, якую рыхтавалі менскія падпольшчыкі. Калі міна выбухнула, я й Мазанік былі ўжо ў лясох Лагойшчыны. У хуткім часе нас у сакрэтным парадку, самалётам, пераправілі ў Маскву..."

На паховінах гаўляйтэра Вільгельма фон Кубэ вышэйшыя чыны Рэйху пакляліся адпомсьціць за ягоную сьмерць. Тысячы мірных жыхароў былі схопленыя й расстраляныя, рэпрэсіі працягваліся яшчэ доўгі час. Жонка гаўляйтэра Аніта (Кубэ спаў у пакоі адзін) адразу пасьля выбуху здагадалася, што міну падклала ейная "Гэлена", якой яна давярала.

А яшчэ Восіпава ўспамінала, што перад сваім тэрарыстычным актам Мазанік вывезла зь Менску шэсьць вазоў жыдоўскага "барахла" некуды ў Ратамку ці Ждановічы ды пахавала яго ў пэўных хатах. Немцы даведаліся пра гэта, і возчык, і сем'і, у якіх было прыхаванае дабро, былі расстраляныя. Восіпава асуджала гэткі ўчынак сваёй паплечніцы й гаварыла, што ніякая яна не патрыётка, што выканала яна загад пад ейным націскам. Пасьля вайны Мазанік яшчэ доўга не адважвалася жыць у Менску адкрыта. Часам яе пыталіся нейкія невядомыя людзі, магчыма, каб адпомсьціць за сьмерць Кубэ.

**Юры Гіль**

---

**Сьв. памяці Кастусь Іскрыцкі** нарадзіўся 14 сьнежня 1919 г. у вёсцы Пухічын Палескай вобласьці. Памёр 4 лютага 2004 г. У 1946 г. прыехаў у Англію зь Італіі. Браў актыўны ўдзел у арганізаваньні беларускага праваслаўнага прыходу Сьв. Мікалая ў Манчэстары. Быў першым старшынём Камітэту й прадаўжаў быць ім празь дзесятак гадоў. Пад ягоным кіраўніцтвам быў куплены будынак пад царкву. Пакінуў у смутку: сына, дзьве дочкі і ўнука. Хай будзе вечная памяць яму!

**Сьв. памяці Ніна Абобурко** нарадзілася 6 чэрвеня 1926 г. Памерла 21 кастрычніка 2003 г. Сьв. памяці Ніна была вельмі ахвярнай парахвянкай. Ад самага пачатку арганізаваньня беларускага прыходу Сьв. Мікалая ў Манчэстары прыналежыла да хору, вельмі прыгожа сьпявала, знала напамяць усе царкоўныя песьні й мэлёдыі. Парахвія й парахвяне страцілі вельмі добрую парахвянку й сяброўку. Праз усё сваё жыцьцё ў Манчэстары яна ніколі не апусьціла царкоўнай службы. У смутку пакінула мужа, трох сыноў, дзьве дочкі, унукаў і унучак. Царства нябеснае для яе душы!

**Пратаярэй Міхаіл Іскрыцкі**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Беларускі друк у Вільні ў 1928 г.

У ліпені 1928 г. "з аказіі ўрадавага паказу ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы публічнай як аднаго з аддзелаў рэгіянальнай выставы ў Вільні" выйшла публікатка "Польске часопісьменніцтво віленьске в р. 1928". Трэці разьдзел гэтае публікаткі прысьвечаны статыстычнаму параўнаньню польскага і няпольскага друку ў Вільні. Прыводзім ніжэй фрагмэнты гэтага разьдзелу, якія датычаць тагачаснага беларускага друку ў Вільні:

1. ГАЗЭТЫ. ... Адна беларуская газэта "Праца", якая выходзіць толькі два разы на тыдзень, рэпрэзэнтуе 10% віленскіх газэтаў, а сваімі 4.600 асобнікамі накладу (калі-б выходзіла 7 разоў на тыдзень, выходзіла-б толькі 1.314 асобнікаў) – 15,06% за адзін раз і 5,67% штодзённа. У дачыненьні да штодзённай польскай прэсы беларуская складае 8,54%...

2. КАЛЕНДАРЫ разьмяркоўваюцца так: 64,7% польскія (11 выданьняў), 17,64% беларускія (тры), 11,76 жыдоўскія (два) й 5,88 літоўскія (толькі адзін і тое ён выходзіць толькі накладам 1.500 асобн.)... Найвышшыя наклады прыпадаюць на: жыдоўскія (5 і 7 тыс. асоб.), адзін беларускі (5.000), а з польскіх "Ostrobramski" й "Ziemi Wilecskiej" (па 4.000)...

3. НАРОДНЫЯ ЧАСОПІСЫ. Як колькасьцю (7 на 15, або 46,66%), так і велічынёю накладу (23.300 на 38.310, або 60,82%), пераважаюць беларускія. Ёсьць гэта зьява цалкам натуральная ў Вільні, як адзіным у Польшчы палітычным і культурным асяродку беларушчыны. Сярод тых выданьняў бачым 4 штотыднёвікі й 3 двухтыднёвікі...

4. Сярод ЧАСОПІСАЎ ДЛЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ ... жыдоўскія й беларускія (па 3, г. зн. па 16,66%)... Адносна працэнту велічыні накладу... 2.600 (8,3%)... Становішча з часопісамі для інтэлігенцыі, у параўнаньні з становішчам з часопісамі для народу, якое сьведчыць пра беларускую экспаньсію, пераконвае ў літоўскай і жыдоўскай экспаньсіі, што добра характарызуе грамадзкую структуру гэтых нацыянальнасьцяў. Кожная з рэпрэзэнтаваных нацыянальных групаў прадстаўляе сябе як мінімум адным паважным месячнікам або радзейшым выданьнем (... беларускія "Беларуская Культура" й "Родныя Гоні"...) З штотыднёвікаў і двухтыднёвікаў... беларускія – адзін двухтыднёвік ("Беларускі Радны")...

5. Да высілкаў інтэлігенцыі далучаецца й акадэмічная МОЛАДЗЬ: ... беларуская – двухмесячнікам "Студэнцкая Думка".... 500 асобн.)...

6. У ГУМАРЫСТЫЦЫ... польскіх пэрыёдыкаў не сустракаем, тады як у беларусаў такі штотыднёвік – "Маланка" – цешыцца дужай папулярнасьцю (3.500 асобн.).

7. Польскія віленскія ДЗЕЦІ... свайго часопісу ня маюць... Затое з дужым размахам (5.000 асобн.) распаўсюджваецца сярод беларускіх дзетак месячнік "Заранка"...

8. Яскрава ілюструе прафэсыйную структуру асобных нацыянальных групаў Віленшчыны СПЭЦЫЯЛЬНЫЯ ЧАСОПІСЫ: ... для беларускіх і літоўскіх падпішчыкаў – па 1 сельскагаспадарчым воргану (бел. месячнік "Саха", які друкуецца накладам 1.000 асобн..., або рэпрэзантуе... 10,74% накладаў гэтага разьдзелу)...

9. На НАВУКОВЫМ полі... адно толькі беларускае выданьне – месячнік "Беларуская культура" прадстаўляе 10,75% накладу віленскіх навуковых часопісаў (1.000 асобн.)...

10. Падсумоўваючы з гэтага пункту гледжаньня інтэнсіўнасьць народнага і культурнага (асьветнага й навуковага) жыцьця Вільні, як асяродка рэгіянальнага, сцьвярджаем на падставе бязспрэчных колькасных дадзеных наступную пачарговасьць узделу асобных нацыянальных групаў краю ў разьвіцьці культуры ў галіне пэрыядычных выданьняў: палякі, беларусы, жыды, літоўцы, расейцы, а менавіта:

| | Выданьні | Або % | Агульны наклад | Або % |
|---|---|---|---|---|
| Палякі | 57 | 55,88 | 96.735 асобн. | 48,75 |
| Беларусы | 19 | 18,62 | 52.000 | 26,21 |
| Жыды | 12 | 11,76 | 31.100 | 15,67 |
| Літоўцы | 11 | 10,78 | 14.405 | 7,26 |
| Расейцы | 3 | 2,94 | 4.170 | 2,10 |

... Дапоўнім гэтае дадзенымі за першае паўгодзьдзе 1928 г., якія тычацца выключна непэрыядычных віленскіх выданьняў (у тым ліку плякатаў і г. д.):

| | Выданьні | Або % |
|---|---|---|
| Палякі | 207 | 72,57 |
| Жыды | 31 | 10,72 |
| Беларусы | 25 | 8,68 |
| Расейцы | 11 | 3,82 |
| Літоўцы | 10 | 3,47 |
| Іншыя | 4 | 1,4 |

*Падрыхтаваў* **Алег Мінкін**

**Шаноўныя чытачы!**

**Як бачыце, газэта "Рунь" гэтым разам выйшла меншым фарматам і аб'ёмам. Зьвязанае гэтае зь нялёгкім сёлетнім фінансавым становішчам газэты, а таксама з нашым жаданьнем выхадзіць як мага часьцей, быць больш апэратыўнымі ў падачы інфармацыі. Спадзяемся, што газэта нашая, пачынаючы з гэтага нумару, будзе цяпер, сапраўды, выходзіць адзін раз на месяц. А калі раптам нам удасца палепшыць ейнае фінансавае становішча, дык вернем "Руні" ранейшы выгляд і фармат.**

**Зь Вялікаднем вас, сябры! Хрыстос уваскрос!**

**Умовы падпіскі на газэту "Рунь"**

Жыхары Літвы (дый жыхары іншых краінаў падчас прабываньня ў Вільні) могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: 261 62 24). Для жыхароў Літвы кошт падпіскі на год – LTL 20,00.

Падпішчыкам зь Беларусі ў наступным нумары паведамім тэлефон нашага карэспандэнта ў Менску. Кошт падпіскі на год – сума ў бел. рублях, эквівалентная USD 10,00.

Падпішчыкі зь іншых краінаў могуць падпісацца, даслаўшы на адрас рэдакцыі імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko). Кошт падпіскі на год – USD 30,00 (EUR 25,00).

✉ Адрас для допісаў:
«Рунь», 01004 Vilnius, a/d 1021

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | | |
|---|---|---|
| Ю. Касьцюкевіч з Амэрыкі | USD | 50 |
| В. Шчэцька з Амэрыкі | USD | 20 |
| А. Кузьміцкая з Амэрыкі | USD | 20 |
| В. Станкевіч з Амэрыкі | USD | 25 |
| К. Акула з Канады | USD | 30 |
| Ю. Найдзюк з Амэрыкі | USD | 30 |
| У. Акавіты з Аўстраліі | AUD | 50 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
Выдаецца з 1997 году.
Выходзіць адзін раз у месяц.
Выдаўца: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»*.
Адрас рэдакцыі:
01004 Vilnius, a/d 1021
тэлефон: (+ 370) 652 07933
факс: (+ 370 5) 242 38 02
http://www.runbel.lt
*e-mail:* editor@runbel.lt
Алег Мінкін – рэдактар
Павал Саўчанка – сакратар
Наклад 1000

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015